# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 26 (800) ГОД XVI БЕЛАСТОК 27 ЧЭРВЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.





*На набярэжнай суднаверфі «Вісла» ў Гданьску м/с «Гайнаўка» чакае ўрачыстага спуску на ваду. Яго цана — 42 мільёны злотых.*

## БГКТ хроніка

■ Урачысты пленум дуброўскага аддзела, прысвечаны 15-ай гадавіне БГКТ, адбыўся 7-га чэрвеня ў Ячне. З дакладам на гэтую тэму выступіў намеснік старшыні аддзела Аляксандр Мазалеўскі. Пасля даклада сакратар ГП Янка Зенюк уручыў дыпломы, а Аляксандру Мазалеўскаму «Бронзавае адзначэнне імя Янкі Красіцкага», прызнанае ГП ЗМС. Вёў пленум старшыня аддзела Іван Ляўко.

■ 8-га чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума ГП ў Гайнаўцы. Асноўным пунктам павесткі дня была ацэнка культурна-асветнай дзейнасці гайнаўскага аддзела БГКТ. Справаздачу аб працы ад верасня 1970 года да дня пасяджэння прачытаў намеснік старшыні гайнаўскага аддзела Мікалай Самоцік. У справаздачы падкрэслівалася, што ў гэтым перыядзе часу яшчэ больш расшырыліся формы працы аддзела і ўзбагаціўся іх змест, гурткі ўзмоцніліся арганізацыйна і наступіла цяснейшае супрацоўніцтва БГКТ з арганізацыямі і ўстановамі.

Высокую ацэнку дзейнасці БГКТ даў у сваім выступленні першы сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі.

— На Гайнаўшчыне, — сказаў ён, — без удзелу членаў Беларускага таварыства нічога не робіцца. — Тав. Лазоўскі выступіў з прапановаю ўтварэння ў Гайнаўцы рэгіянальнага беларускага ансамбля песні і танца. — Дапамажыце нам, — звяртаўся ён да членаў прэзідыума ГП, — знайсці і заахвоціць пасяліцца ў Гайнаўцы спецыялістаў у гэтай галіне. Забяспечым іх адразу добрым памяшканнем.

Былі прапановы, каб арганізаваць у павеце 4—5 сталых лекарскіх пунктаў. Гаварылася і аб тым, што неабходны да працы ў аддзеле яшчэ адзін чалавек, бо аддзел разросся, мае больш 70 гурткоў.

Падчас дыскусіі многа ўвагі было прысвечана беларускаму этнаграфічнаму музею ў Белавежы, які знаходзіцца ў вельмі дрэнным будынку, зусім не прыстасаваным да перахоўвання экспанатаў.

У пасяджэнні прыняў удзел таксама кіраўнік аддзела ўнутраных спраў павятовай рады нарадовай Кастусь Бялеўскі.

■ 13-га чэрвеня адбылася сустрэча прадстаўнікоў БГКТ з жыхарамі асады Орля. Сакратар ГП Янка Зенюк выступіў з шырокай інфармацыяй аб дасягненнях БГКТ за 15 год дзейнасці. У гэтым спатканні ўдзельнічалі таксама кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Сяргей Лукашук і сакратар бельскага аддзела Вера Леанюк.

Пасля дыскусіі апаратурай ГП БГКТ быў высветлены савецкі фільм «Распятый остров».

На сходзе гэтым многія выразілі жаданне ўступіць у рады Беларускага таварыства. Шмат асоб падпісала дэкларацыі БГКТ. (мх)





Гады чатыры таму назад на адным са сходаў гайнаўскага гуртка прафесіянальнай арганізацыі інжынераў і тэхнікаў (НОТ) хтосьці з прысутных, здаецца, Юльюш Айжаноўскі, кінуў думку: Гайнаўка дастаўляе драўніну, якую наша краіна прадае за мяжу. Ці не было б добра і прыгожа, калі б адно з суднаў, якія перавозяць белавежскія сосны, распілаваныя ў Гайнаўцы, атрымала назву *«Гайнаўка»?!*

Гэтая думка здалася тады зусім нерэальнай. Аднак яна спадабалася гайнаўчанам. Рабочыя камбіната рашылі адну нядзелю прысвяціць на дадатковую працу, а заробленыя грошы прызначыць на абсталяванне гэтага судна, якое яшчэ тады існавала толькі ў марах.

Адначасова абгрунтаваную прапанову гайнаўчане паслалі кіраўніцтву польскага мораплавання ў Шчэціне. Даказвалі, што праслаўленая рабочымі змаганнямі «чырвоная» Гайнаўка — сталіца польскай дрэваапрацоўчай прамысловасці, дастойна таго, каб адно з польскіх суднаў насіла яе назву.

І вось, як ім здавалася, мала рэальная прапанова пераўтварылася ў рэчаіснасць. У красавіку гэтага года Гданьская суднаверф «Вісла» паведаміла кіраўніцтву гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната, што пастаноўлена новазбудаванае судно, якое прызначаецца для транспарту драўніны, назваць імем *«Гайнаўка»*. У сувязі з гэтым суднабудаўнікі прасілі ўказаць *хросную маці* і прыслаць на ўрачысты спуск на ваду судна дэлегацыю гайнаўскіх рабочых.

У Гайнаўцы ўспыхнула зразумелая радасць. Першае пытанне вырашана згодна: *хроснай маці будзе жонка шматгадовага гаспадара Гайнаўкі, старшыні прэзідыума гарадской рады Кастуся Ляшчынскага.* Крыху больш турбот было з укамплектаваннем саставу дэлегацыі гайнаўчан. Кожны з амаль двухтысячнага рабочага калектыву Гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната хацеў уласнымі вачыма паглядзець на гэтае судно, якое мела насіць імя іх горада. Нарэшце, вырашылі паслаць у Гданьск, апрача афіцыйных прадстаўнікоў дырэкцыі, партыйнай, прафсаюзнай і маладзёжнай арганізацый, найбольш заслужаных рабочых.

Еду з імі. Разам нас амаль 40 чалавек. Завадскі аўтобус імчыцца на поўнач. Час язды зацягваецца амаль да дзесяці гадзін. Знаёмлюся з людзьмі. Дырэктара Суліму ведаю ўжо даўно. Ён з гайнаўскім «тартаком» не расстаецца ад 1935 года. Яшчэ даўжэй працуюць там Вітальд Голуб, майстар Аляксандр Сінякевіч і Антон Мартынюк. Малодшыя працоўным стажам, якія знайшліся ў гэтым аўтобусе, таксама не ўступаюць ім заслугамі. Хаця б майстар — «залатая ручка» Леанард Пабядзінскі, які нядаўна адзін за тыдзень правёў пасляаварыйны рамонт абсталявання, калі даведаўся, што цэлая брыгада абяцала зрабіць гэта за два тыдні. Ёсць тут Эдвард Цыборан, і Канстанцін Дацкевіч, і ўдарніца працы Данута Ладынская і Вацлаў Міклашэвіч і іншыя, якіх не змог я назваць.

Цешацца і хвалююцца. Хацелі б як мага хутчэй быць ужо на месцы, каб убачыць гэтую сваю «Гайнаўку».

У Гданьску сустракае нас прадстаўнік суднабудаўнікоў, сакратар завадской партыйнай арганізацыі суднаверфі «Вісла», мгр Мар'ян Дзеніс. Аказваецца, што ён наш зямляк, родам з-пад Беластока.

Пасля начлегу і адпачынку гасцінныя гаспадары наладжваюць для гайнаўскай дэлегацыі экскурсію па горадзе. Знаёмімся з помнікамі культуры і гісторыі Гданьска, слухаем цудоўны канцэрт праслаўленых аліўскіх арганаў, схіляем галовы ля помніка на Вестэрплятэ.

Урэшце набліжаецца трэцяя гадзіна

Працяг на стар. 4

**Падзеі · Здарэнні · Факты · Каментарыі · Весткі**

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## З'ЕЗД САПГ

У мінулую суботу закончыўся VIII з'езд Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі. Дэлегаты на з'езд прадстаўлялі сабой больш чым 1,9 мільёна членаў і кандыдатаў партыі.

З'езд прыняў дырэктыву па пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі ГДР на 1971—1975 гады, абмеркаваў заданні партыі на далейшы перыяд, абмеркаваў міжнародную палітыку, а асабліва ролю ГДР у забеспячэнні ўсееўрапейскай бяспекі і міру ва ўсім свеце.

Выбраны з'ездам новы Цэнтральны Камітэт САПГ аднамысна выбраў на пасаду першага сакратара партыі Эрыха Хонекера.

## СУПРАЦЬ УВЕКАВЕЧАННЮ ВАЙНЫ

Пераважная большасць членаў дэмакратычнай і рэспубліканскай партыі ЗША выступае за хутчэйшае заканчэнне вайны ў Індакітаі, заявіў вядомы палітычны і грамадскі дзеяч ЗША Аверэл Гарыман. Ён выказаўся ў падтрымку папраўкі Макговерна-Хэтфілда, якая знаходзіцца на разглядзе кангрэсу і прадугледжвае спыненне амерыканскага ваеннага ўмяшання ў Індакітаі да 31 снежня 1971 года. Прэзідэнт ЗША, адзначыў Гарыман, відаць, мае намер працягваць вайну. Праграма «в'етнамізацыі», падкрэсліў ён — гэта праграма ўвекавечання вайны.

## МЕДЫЦЫНСКАЯ ДАРАГАВІЗНА

«Большасць амерыканцаў, — адзначае штотыднёвік «Бізнес уік», — лічыць, што лепш памерці, чым сур'ёзна захварэць. Для мільёнаў жыхароў папасці ў бальніцу абазначае поўнае зруйнаванне або амаль гэтае. Для велізарнай большасці не існуе высакаякасная медыцынская дапамога».

У ЗША аперацыя апендыцыта, напрыклад, каштуе 300 долараў, прабыванне ў радзільным доме — 600 долараў, візіт у лекара каштуе 9 долараў.

## ВЫБАРЧЫЯ ЦЭНЗЫ

У многіх капіталістычных краінах існуюць так званыя выбарчыя цэнзы — нацыянальныя, расавыя, адукацыйныя, матэрыяльныя, якія пазбаўляюць мільёны працоўных магчымасці ўдзельнічаць у выбарах. У многіх штатах ЗША не маюць права голасу тыя людзі, якія пражываюць у дамах для бедных. Напрыклад, у чвэрці штатаў ЗША не ўключаюцца ў спіскі выбаршчыкаў асобы, якія атрымліваюць дапамогу з прычыны беспрацоўя.

## ТАЙНЫЯ ДАКУМЕНТЫ

У Вашынгтоне адбыўся суд над часопісам «Нью-Йорк таймс» за тое, што распачаў ён публікацыю тайных урадавых дакументаў. Гэтыя дакументы даказваюць, што Пентагон планаваў напасці на В'етнам яшчэ за часоў прэзідэнтуры Трумана і Эйзенхаўэра. Дакументы даказваюць, што чарговыя прэзідэнты і адміністрацыі ашуквалі кангрэс і грамадскасць Злучаных Штатаў. Асабліва адносіцца гэта да шырокай падрыхтоўкі нападу на ДРВ. (ак)



## СЯРГЕЙ ПРЫТЫЦКІ

13 чэрвеня 1971 года пасля цяжкай хваробы памёр Сяргей Прытыцкі.

С. Прытыцкі нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Гаркавічы на Беласточчыне, у сям'і селяніна-бедняка. У юнацкім узросце, будучы камсамольцам, а з 1932 года членам КПЗБ, С. Прытыцкі ўступае на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Ён узначальвае ў Заходняй Беларусі падпольныя раённыя і акруговыя камсамольскія арганізацыі, праяўляе сябе як смелы і мужны важак моладзі. У 1933 годзе паліцыя арыштоўвае С. Прытыцкага. Пасля выхаду з турмы ён працягвае рэвалюцыйную барацьбу ў падполлі. С. Прытыцкі становіцца бясстрашным барацьбітом, прызнаным рэвалюцыянерам.

У 1936 годзе суд прыгаварыў С. Прытыцкага за актыўную рэвалюцыйную дзейнасць да смяротнага пакарання. Аднак, дзякуючы шырока разгорнутай барацьбе працоўных многіх краін за яго вызваленне, пакаранне смерцю было заменена пажыццёвым зняволеннем.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Сяргей Прытыцкі выбіраецца намеснікам старшыні Беластоцкага аблвыканкома. У гады Вялікай Айчыннай вайны С. Прытыцкі быў адным з актыўных арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі і Польшчы.

У 1948 годзе С. Прытыцкі скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС, пасля чаго працаваў другім, затым першым сакратаром Гродзенскага абкома КП Беларусі. У 1953 годзе ён выбіраецца першым сакратаром Баранавіцкага абкома партыі, а ў 1954 годзе — першым сакратаром Маладзечанскага абкома КП Беларусі. З 1960 па 1962 год С. Прытыцкі працаваў першым сакратаром Мінскага абкома партыі. З 1962 па 1965 год С. Прытыцкі — сакратар ЦК КП Беларусі, старшыня Камітэта партыйна-дзяржаўнага кантролю ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, а з 1965 года — сакратар ЦК КП Беларусі.

З 1968 года Сяргей Прытыцкі — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

С. Прытыцкі ўзнагароджан чатырма ордэнамі Леніна, двума ордэнамі Чырвонага Сцяга і многімі медалямі.

## ПЛЕНУМ ФАН

Нядаўна адбылася пленарная сесія Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа (ФАН), першая пасля снежаньскага крызісу і пасля паўгадовага перыяду ўмацоўваючайся стабілізацыі краіны. Тэмай сесіі былі актуальныя задачы ФАН, яднаючага ўсе грамадскія і палітычныя сілы народа, і вырашаючыя аб сучаснасці і будучыні нашай краіны. У сесіі прымалі ўдзел кіраўнікі ПАРП і дэмакратычных партый: Э. Герэк, С. Гуцва і З. Москва. Прысутнічалі таксама члены галоўных дзяржаўных улад: Ю. Цыранкевіч, П. Ярашэвіч і Д. Галай.

На сесіі выбраны новыя ўлады Агульнапольскага камітэта ФАН. Старшынёю выбраны праф. Януш Грашкоўскі, дагэтуль быў ён намеснік старшыні АК ФАН, а намеснікамі М. Грэндыс, праф. др С. Кульчынскі, праф. др Я. Шчэпанскі, К. Лубенскі, Ю. Озга-Міхальскі і Ю. Тэйхма.

У склад Прэзідыума АК ФАН увайшлі: Э. Герэк, Э. Бабюх, Ю. Цыранкевіч, Я. Дабрачынскі, С. Гуцва, Я. Івашкевіч, П. Ярашэвіч, У. Кручэк, М. Мільчарэк, З. Москва і Я. Шыдляк.

Пасля выбараў з прамоваю выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Ю. Тэйхма, які, між іншым, сказаў, што ў апошні час ЦК ПАРП і ўрад апрацоўваюць праект грамадска-гаспадарчага плана да 1975 года, а таксама напрамкаў развіцця да 1980 года. Асноўным напрамкам працы з'яўляецца далейшае гаспадарчае, тэхнічнае і навуковае развіццё Польшчы, а таксама скарэйшая паправа бытавых умоў грамадства. За справу вялікага значэння Ю. Тэйхма прызнаў павелічэнне ўплыву людзей навукі і тэхнікі на прагрэс у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Універсальнай мерай вартасці людзей, партыйных і беспартыйных, павінна быць добрая праца. Замацаванне гэтай практыкі з'яўляецца ўмовай вызвалення ў грамадстве максімальных творчых магчымасцей. Заявіў ён, што партыя зробіць намаганні дзеля таго, каб ФАН быў трывалым і актыўным звяном сістэмы сацыялістычнай дэмакратыі.

Нававыбраны старшыня АК ФАН, між іншым, сказаў: «...Мы павінны давесці да свядомасці кожнага паляка тую элементарную праўду, што яго ўласная будучыня, будучыня яго дзяцей і ўсяго народа залежыць ад таго, як ён працуе на сваім пасту».

## ІНВЕСТЫЦЫІ І БУДАЎНІЦТВА

У сядзібе Рады Міністраў адбылася гаспадарчая нарада, прысвечаная праблемам інвестыцыі і будаўніцтва ў гадах 1971—1975. Удзельнічалі на нарадзе І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк, прэзас Рады Міністраў П. Ярашэвіч, партыйны і гаспадарчы актыў з цэлай краіны, а таксама прадстаўнікі навукова-даследчых цэнтраў. Прэм'ер Ярашэвіч у сваім выступленні сказаў, што больш 43 прац. выдаткаў прызначаецца зараз на інвестыцыі лёгкай, спажывецкай і мэблевай прамысловасці. Прэм'ер даў крытычную ацэнку сітуацыі, якая існуе ў галіне праектавання будынкаў для гаспадарак на вёсцы. Перад будаўнічымі пастаўлена зараз задача, каб на ўсіх важнейшых інвестыцыях скараціць цыкл пабудовы.

## НАРАДА Ў ВК

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася ў мінулым тыдні нарада спецыялістаў грамадскай службы здароўя нашага ваяводства. Вёў нараду сакратар ВК А. Младзяноўскі. Прысутнічалі: намеснік кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП Ул. Нясмялэк, дырэктар дэпартамента прафілактыкі і лячніцтва ў міністэрстве здароўя С. Зялінскі і намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч.

Аб праблемах службы здароўя гаварыў кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК партыі Ул. Канстанчук. Ён адзначыў, што хоць служба здароўя не ўдзельнічае непасрэдна ў павелічэнні нацыянальнага даходу, аднак яе праца значна спрыяе паляпшэнню здароўя грамадства.

У дыскусіі шмат гаварылася аб заразных і грамадскіх хваробах, аб працы камітэтаў гігіенізацыі вёскі, гаварылася таксама аб павышэнні лекарскай этыкі.

## З'ЕЗД КІРАЎНІКОЎ АМ

У Беластоку адбыўся з'езд прарэктараў і дзеканаў усіх медыцынскіх акадэмій Польшчы. Галоўнай тэмай з'езда былі поспехі моладзі ў навуцы за апошнія два гады. З'езд быў арганізаваны міністэрствам здароўя і грамадскай апекі. Старшынёй на з'ездзе быў дырэктар дэпартамента навукі і школьніцтва А. Войтчак. Удзельнічалі ў працы з'езда віцэ-міністр здароўя і грамадскай апекі М. Слівінскі, прадстаўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК партыі Е. Камінскі, сакратар ВК партыі Ул. Юшкевіч і намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч.

Удзельнікі з'езда абмеркавалі дзейнасць рад па справах моладзі і педагагічных рад, выслухалі інфармацыю аб поспехах навучання ў апошнія гады, а таксама аб выкананні выхаваўчых заданняў.

## ПЛЕНУМ ГК

У мінулым тыдні адбыўся пленум гарадскога камітэта партыі ў Беластоку на тэму ідэйна-выхаваўчай дзейнасці на беластоцкіх прадпрыемствах. У час падрыхтоўкі да гэтага пленума было дакладна праверана з гэтага пункту гледжання 12 прадпрыемстваў горада. Вынікі гэтай праверкі былі зместам дакладу, з якім выступіў сакратар ГК Е. Ёка. Пленум звярнуў увагу на паляпшэнне метадаў партыйнай працы на прадпрыемствах.

## У БЕЛАСТОЦКАЙ «ТЭЛЬЗЕ»

Беластоцкі філіял варшаўскай тэлевізійнай фабрыкі прыступіў раней вызначанага тэрміну да запуску машын і ўсяго абсталявання. Гэта адбылося дзякуючы таму, што Падляшскае будаўнічае прадпрыемства на месяц раней тэрміну скончыла сваю працу. Яшчэ ў гэтым месяцы беластоцкая «Тэльза» у рамах запуску фабрыкі зможа даць першую пробную прадукцыю.

## АДПАЧЫНАК ДЛЯ САНСЛУЖБЫ

У Аўгустове прабываюць на двухтыднёвым адпачынку пілоты санітарнай службы, лекары, фельчары і санітаркі. Яны адпачываюць і адначасова павышаюць свае кваліфікацыі. (яч)




**Niedziela 27.VI.**

8.35 Program dnia. 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: „15-letni kapitan" — film fab. radz. 12.45 Program dnia. 12.50 Dziennik. 13.10 „Robert Louis Stevenson" — film TV ang. („Portrety"). 13.40 „Przemiany". 14.10 „Klub Sześciu Kontynentów". 14.50 PKF. 15.00 „Polska leży nad Bałtykiem" — teleturniej. 16.00 „Piosenka dla Ciebie". 17.00 Sprawozdanie z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Polski Górnik (Zabrze) — Zagłębie (Sosnowiec). 18.45 „Pozdrów ode mnie morze". filmowy program muzyczny NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Melodie Wielkiego Ekranu" — piosenki meksykańskie. 21.05 „Karciarz z Missisipi" — film fab. USA. 22.40 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 28.VI.**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pod żaglami Zawiszy". 17.30 Magazyn Postępu Technicznego. 18.00 Sprawozdanie z finału lekkoatletycznych Mistrzostw Polski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: St. Żeromski — „Ludzie bezdomni". 21.35 Koncert muzyki klasycznej w wyk. Heleny Szyszko (Leningrad). 22.20 Dziennik.

**Wtorek 29.VI.**

10.00 „Lawina" — film fab. radz. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.25 „Plebiscyt — Powiśle, Warmia, Mazury — rok 1920" — film pol. 18.45 „Miasta o sobie" — Kłodzko — program dok. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Lawina" — film fab. radz. 21.15 „Komu mieszkanie" — program ekonom. 21.45 „Dzisiaj: Patty Pravo" — włoski program rozrywkowy. 22.15 Dziennik.

**Środa 30.VI.**

10.00 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Teleferie". 17.20 Magazyn ITP. 17.35 „Sylwetki X Muzy" — Zdzisław Maklakiewicz. 18.00 „Obywatel władzą". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Wielcy znani i nieznani" — „Drugi po Koperniku — Jan Heweliusz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. 20.50 „Światowid". 21.20 „Genealogia Musicalu" XXV program „Słuchamy i patrzymy". 22.40 PKF. 22.50 Dziennik.

**Czwartek 1.VII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Zbiory i elementy logiki" cz. I. 9.05 Matematyka w szkole: „Zbiory i elementy logiki" cz. II. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Magazyn ITP. 17.15 „W jednym ręku" — program wiejski. 17.45 „Zaśpiewali — zagrali" — film folkl. bułg. 18.20 TV Kurier Kielecki. 18.35 „W gąszczu przepisów". 19.00 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Zemsta OAS" — film. fab. franc. 21.30 „Prezentujemy: Opera Bałtycka". 22.20 Dziennik.

**Piątek 2.VII.**

10.00 „Zemsta OAS" — film fab. franc. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Dzisiaj: Gianini Morandi" — włoski program rozrywkowy. 20.30 „Kraj". 21.10 „Gonitwa" — film fab. pol. 22.25 Dziennik.

**Sobota 3.VII.**

10.00 „Jestem niewinny" — film fab. USA. 15.35 Program dnia. 15.40 Program tygodnia. 16.00 „Oferty". 16.15 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971". 16.50 Dziennik. 17.20 „Spotkania z przyrodą". 17.55 Sprawozdanie Sport. z rozgrywek Intertoto w piłce nożnej Szombierki (Bytom) — Servette (Genewa). 18.45 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Z wizytą u Was". 21.30 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. 22.00 Kino Interesujących Filmów: „Jestem niewinny" — film fab. USA.




**Piątek, 25 czerwca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Dla wsi. 9.45 Nowiny. 9.50 Turniej międzynarodowy. Pięciobój. 14.45 Program dnia. 14.50 Nowiny. 15.20 Panorama nowin. 15.30 Dla dzieci. 16.00 Nowiny. 16.35 Koncert. 17.30 Film animowany dla dzieci. 17.40 Film fab. 18.45 Czas. 19.05 O teatrze. 20.45 Konkurs. 21.35 Mistrzostwa Europy w podnoszeniu ciężarów.

**Sobota, 26 czerwca**

8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Szkatułka muzyczna. 9.15 Program młodzieżowy. 9.45 Postępowi malarze Japonii. 10.15 Płomienne serce. 10.45 Film animowany dla dzieci. 11.00 Program literacki. 11.45 Nauka dziś. 12.15 Spektakl TV. 13.00 V Spartakiada. 13.30 Uniwersytet TV. 14.05 Spotkania muzyczne. 14.35 Czterej pancerni i pies. 15.35 Trybuna pisarza. 16.00 Nowiny. 16.05 W świecie zwierząt. 17.00 KWZ-71. 19.15 Czas. 19.45 Film fab. 21.00 Lot w nieśmiertelność. 21.15 Film muz. 21.30 Mistrzostwa Europy w podnoszeniu ciężarów.

**Niedziela, 27 czerwca**

8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Spektakl TV. 10.15 Miasto mistrzów. 11.15 Dla żołnierzy. 12.00 Białe i czarne. 12.30 Dla wsi. 13.00 Piłka nożna. „Torpedo" (Moskwa) — CSKA. 14.45 Rubieże pięciolatki. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Reportaż. 16.35 Czterej pancerni i pies. 17.35 Z historii pieśni radzieckiej. 17.55 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Spartak" (Moskwa). 18.45 Turniej TV. 19.50 Program rozrywkowy. 20.40 Mistrzostwa Europy w podnoszeniu ciężarów. 21.25 Nowiny.

 

*ГАРАДОЦКІЯ САЛІСТКІ*




*Разам працуюць на трыкатажнай фабрыцы ў Гарадку, сябруюць і разам ходзяць на рэпетыцыі хору, разам ездзяць на канцэрты, разам выступаюць у дуэце і падчас конкурсу на беларускую песню — 71, які быў арганізаваны Галоўным праўленнем БГКТ, занялі першае месца. Гэтыя дзве жанчыны маюць падобныя зацікаўленні, маюць таксама падобныя біяграфіі. Ідзе тут гутарка аб Ірэне Паўлючук і Галене Кот.*

## ІРЭНА ПАЎЛЮЧУК

З песняй падружылася яшчэ ў пачатковай школе ў Гарадку. А калі распачала працу на тэкстыльным камбінаце ў Фастах, нялёгка было са штодзённымі даездамі. Але ва ўсіх цяжкіх хвілінах аблягчала жыццё песня.

У 1955 годзе гарадоцкія жанчыны пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай арганізавалі ў сябе харавы калектыў. Сярод іх была і чорнавалосая Ірэна, тады яшчэ Крысюк. З таго часу пачаліся выступленні на многіх сцэнах. Слава гарадоцкага хору хутка шырылася. На Беласточчыне залічаўся ён да перадавога калектыву і таму быў накіраваны на варшаўскі міжнародны маладзёжны фестываль, які пакінуў у харыстаў, у тым ліку і ў Ірэны, незабыўныя ўражанні. А пасля зноў праца, у Фастах, даезд да яе з Гарадка і, вядома, вечарамі рэпетыцыі хору, а па нядзелях канцэрты.

Ірэнай Крысюк зацікавіўся тады малады хлапец, выхадзец з вёскі Гацькі, што на Бельшчыне, які таксама працаваў у Беластоку. У жыцці Ірэны распачаўся перыяд кахання. У 1959 годзе Ірэна выходзіць за яго, Міцьку Паўлючука замуж. Далей з'яўляецца актыўным членам гарадоцкага жаночага калектыву.

Ад 1960 года да сёння Ірэна Паўлючук працуе ў Гарадку. Шмат у яе сямейных абавязкаў. Але нягледзячы на гэта, яна не прапускае ані рэпетыцый, ані выездаў на канцэрты. На рэпетыцыі часта прыходзіць са сваёй дачушкай Эвай. Мужу яе не заўсёды выгадна, што жонка з-за рэпетыцыі не падрыхтуе на час вячэры, або з-за выезду на канцэрт ён сам рыхтуе абед.

Не так даўно родная сястра Ірэны запрасіла Паўлючукоў на вяселле. А ў гэту нядзелю Ірэне трэба было ехаць у Беласток і выступаць як салістка. Што выбраць тады? Што выбралі б вы? Ірэна паехала на канцэрт і выконвала беларускія песні.



## ГАЛЕНА КОТ

Галена Кот у харавым калектыве — вядомы арганізатар вечарын. А на вечарыны гэтыя прыходзяць харысткі са сваімі мужамі. І вось тады заўсёды ўспомніцца, што ўдзельнікі хору з'яўляюцца фанатыкамі песні. Да гэтай групы залічаецца і Галена Кот. У яе маленькае дзіцё. А пры ім работы шмат. Было сыночку Крыстыяну толькі 4 месяцы, калі Галена давярала каму-небудзь над ім апеку. Так прыехала яна на канцэрт у Беласток, на ўрачысты пленум пятнаццацігоддзя БГКТ.

— Каб не было ў Гарадку харавога калектыву, — гаворыць Галена Кот, — жылося б цяжэй, жылося б нецікава.

Галена — малодшы член харавога калектыву. Спявае тут яшчэ толькі тры гады. Але за гэты час праявілася як таленавітая і дысцыплінаваная салістка.

Галена паходзіць з вёскі Раманова, што ў Беластоцкім павеце. Выйшла замуж за Уладзіміра Кота ў Страшаве. Там разам з ім працавала на гаспадарцы. Але даўжэйшы ўжо час сям'я Котаў жыве ў Гарадку. Галена Кот, нягледзячы на тое, што мае двое дзяцей і шмат сямейных абавязкаў, ды працу на трыкатажнай фабрыцы, заўсёды знаходзіць час, каб быць на рэпетыцыях, каб прымаць удзел у канцэртах і расслаўляць беларускую песню.

Міхась Хмялеўскі
Фота Цаф Сянько

*КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА*

## СЯБРЫ МАЕ, ПАРОЗАЎЦЫ...

Здаецца, нічога асаблівага: імчыць аўтобус у бок Белавежы, за рулём сядзіць сінявокі вадзіцель у чорным картузе. Перад ім у люстэрку розныя твары: засмучаны чымсьці малады мужчына, уткнуты ў кнігу бялявы юнак, побач з ім шчабечуць дзве дзяўчыны-сяброўкі. Хто ўсе яны? А зрэшты навошта гэта?

У вокны аўтобуса заглядае лес. Стройныя сосны працягваюць вандроўніку свае лахматыя лапы, махаюць тоненькімі галінкамі беласнежныя бярозкі. Ціха ў лесе. Толькі зрэдку з галінкі на галінку перапырхне лясная птушачка ды перабяжыць дарогу заяц.

Спераду ўжо мільгаюць агні Поразава, а галіністыя сябры на крок не адступаюць. Значыць, і ім цяжка без чалавека.

Імчыць «ЛАЗ» па знаёмых мясцінах, а думкі забягаюць далёка наперад, варушаць памяць. Перад вачыма ўстаюць першыя пасляваенныя гады, станаўленне Савецкай улады ў Заходняй Беларусі. І людзі, людзі... Якімі яны былі тады — апаленыя і знішчаныя вайной і разрухай, часам згубіўшыя ўсякую веру ў сваё шчасце.

Што здарылася з імі за гэтыя гады? Як жывуць цяпер мае старыя знаёмыя, мае сябры?..

...Вуліца Савецкая. Углядаюся ў твары прахожых, прыглядаюся да новых дамоў, будоў. Вось трохпавярховы будынак школы, новая аптэка, сталовая. А вось і белакаменны Палац культуры. Прыгажун! Так, менавіта аб гэтым калісь марылі паразаўчане...

Пачало змяркацца. Вясёлыя паразаўчане імкнуцца туды, дзе больш цеплыні і святла. У вялікай зале кружацца пары. Настаўнікі, медыцынскія работнікі, рабочыя мясцовага аддзялення саўгаса «Парозаўскі», студэнты, якія прыехалі на выхадныя дні ў родны пасёлак.

Хто ён — высокі бландзін сярэдніх год? Так, гэта ён. Пазнаю ў ім таго маладога калгасніка, які блізка да сэрца прыняў будаўніцтва новай вёскі. Было гэта ў пяцідзесятых гадах. Цяпер Казімір Пратасевіч — кіраўнік аддзялення саўгаса, адукаваны чалавек.

У зале бачу ветэрана калгаснага будаўніцтва Андрэя Міхно з жонкай. Яны любуюцца сваімі сынамі-студэнтамі Леанідам і Анатоліем. Многа працы і сіл улажыў у справу калектывізацыі былы фінагент, камуніст Міхно. І цяпер ён стаіць на быстрыні саўгаснага жыцця. А ўжо ж і ўзрост не той, і здароўе не тое...

Каму-каму, а Софіі Анціпкінай — старшыні мясцовага пасялковага савета знаёмы ўсе, хто тут прысутнічае. Аб ёй, нястомнай актыўнай жанчыне, хочацца сказаць некалькі цёплых слоў.

Усё яе працоўнае жыццё — сярод людзей. Іх радасці і гора даводзілася дзяліць ёй і ў партызанскіх атрадах, і тут, у былым Парозаўскім, а цяпер Свіслацкім раёне. Нямала клопатаў бярэ на сябе і цяпер гэта не толькі па гадах энергічная і валявая жанчына.

А вось і гаспадыня балю — Вера Улас. Колькі ў ёй прыгажосці, маладога запалу! Здаецца, зусім нядаўна Вера Лявонцяўна прыйшла на работу ў стары, пахілены клуб. А цяпер яна дырэктар Палаца культуры, аднаго з найлепшых у раёне. Цёпла аб ёй адзываюцца і ў абласным праўленні культуры. Гэта яна папрацавала, каб яе дарагім госцям было ў гэты вечар радасна на душы.

* ✲ *

Раніца. Прамень сонца каўзануўся па чорнай роўнядзі раяля, заблытаўся ў русых косах шэравокай дзяўчыны. Спад яе тоненькіх пальчыкаў плывуць чулыя мелодыі.

У пакой адзін за другім на дыбачках уваходзіць дзядуля Лявонцій Бушук, бацькі Ірынкі Вера і Аляксандр Уласы, іх старшанькая чарнавокая Алёнка і малыш Віця. Слухаюць, стараючыся не перашкаджаць «хатняму таленту».

А калі ў гасцінай запануе цішыня, дзядуля пяшчотна кажа: — З добрай раніцай, дарагая Ірынка!

У гэты непаўторны міг, у гэтае цудоўнае імгненне чалавечага шчасця цяплее на сэрцы. І хораша, радасна робіцца на душы ад таго, што сябры мае, парозаўцы, выйшлі на шырокую дарогу, што ідуць у ногу з велізарнай краінай.

— З добрай раніцай, дарагія паразаўчане!

*«Гродзенская праўда»*

Украінскае грамадска-культурнае таварыства існуе ўжо 15 год. 26-га чэрвеня ўрачыстым пленарным пасяджэннем у Варшаве адзначае яно свой юбілей. За гэты перыяд УГКТ дабілася вялікіх дасягненняў. Арганізацыя разбудавалася і ўмацавалася. Паспяхова працуюць усе 6 ваяводскіх праўленняў (гданьскае, кашалінскае, альштынскае, шчэцінскае, вроцлаўскае і жэшоўскае). Беспасрэдна Галоўнаму праўленню УГКТ падпарадкавана павятовае праўленне ў Голдапе (усіх павятовых праўленняў налічваецца 14), а таксама гурткі ў Гажове, Хшанове, Грэбенях, Кракаве, Любліне, Катавіцах, Лодзі, Варшаве і Зялёнай Гуры. 204 гурткі УГКТ аб'ядноўваюць больш як 4.500 членаў.

Галоўнае праўленне УГКТ мае сваю сядзібу ў Варшаве. Узначальвае яго Мікола Каролька, а сакратаром з'яўляецца Аляксей Гнацюк. У Варшаве знаходзіцца таксама рэдакцыя «Нашага слова» — органа ГП УГКТ, тыраж якога вагаецца ў граніцах 8,5 тыс. экз.

Дзякуючы вялікім намаганням УГКТ, сярод украінскага насельніцтва добра развіваецца мастацкая самадзейнасць. Шмат ёсць харавых і музыкальных калектываў. Іх налічваецца зараз 44. Апрача таго, паспяхова працуюць многія драмгурткі. Ад 1967 года таварыства арганізуе фестывалі ўкраінскай песні і музыкі. Праведзены ўжо тры: у Саноку, Кэнтшыне і Кашаліне. 27-га чэрвеня такі фэстываль адбудзецца ў Варшаве з нагоды 15-ай гадавіны УГКТ, на якім будуць прысутнічаць удзельнікі ўрачыстага пленума.

Мастацкія калектывы, у асноўным харавыя калектывы, выязджаюць з канцэртамі, на якія збіраюцца, з'язджаюцца з далёкіх мясцовасцей украінцы. Нядаўна такі канцэрт адбыўся ў Гданьску. На ім прысутнічала больш 1700 чалавек.

Галоўнае праўленне УГКТ мае сваё аб'язное кіно, якое дэманструе украінскія фільмы. У 1966—69 гадах дало яно 1200 сеансаў у 680 мясцовасцях.




Запатрабаванне на ўкраінскую песню і слова заспакойвае Польскае радыё ў Жэшове, Альштыне, Кашаліне і Любліне. Тут раз у тыдзень па 20 мінут адбываюцца перадачы на ўкраінскай мове.

Украінскае таварыства шмат увагі прысвячае навучанню ўкраінскай мовы. Выкладаецца яна больш як у 100 пачатковых школах. А ў Белым Бары (Вроцлаўскае ваяводства), існуе пачатковая школа з інтэрнатам. Там усе прадметы выкладаюцца на ўкраінскай мове.

Украінская мова выкладаецца таксама ў двух ліцэях: у Гураве Ілавецкім (Альштынскае ваяводства) і ў Легніцы.

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца сярод украінскага насельніцтва таксама школьныя аматарскія калектывы з украінскім рэпертуарам. Асабліва высокі мастацкі ўзровень мае ансамбль песні і танца, які існуе пры легніцкім агульнаадукацыйным ліцэі.

ГП УГКТ забяспечвае мастацкія самадзейныя калектывы належным украінскім рэпертуарам. Выдана ўжо 7 рэпертуарных зборнікаў, у якіх змешчана 180 пазіцый. Друкуецца часта рэпертуарны матэрыял на старонках «Нашага слова». А дзяржаўнае выдавецтва школьных падручнікаў выдала для патрэб школ «Украінскі школьны песеннік», у якім знаходзіцца больш як 150 песень, распрацаваных на 2 і 3 галасы.

Украінскае таварыства кожны год выдае «Украінскі каляндар» тыражом у 9-ць тысяч. Выдана таксама украінская літаратурная анталогія «Гомін».

Адным словам, УГКТ вядзе ў сваім асяроддзі вялікую культурна-асветную і палітычна-прапагандовую работу, якая прычыняецца да выхавання ў духу патрыятызму, у духу сацыялізму і інтэрнацыяналізму.

*Міхась Хмялеўскі*

### НАЙЛЕПШЫЯ

Грамадская бібліятэка ў вёсцы Дубасьна Дуброўскага павета налічвае 3290 кніжак і мае 170 чытачоў. Вядзе яна чатыры бібліятэчныя пункты, з якіх найлепш працуе пункт у Канюшках пад кіраўніцтвам Зыгмунта Ялашэвіча. Дубасьнаўская бібліятэка мае чытальню, радыёпрыёмнік і адаптар. У апошні час як паінфармавала мяне кіраўнічка бібліятэкі Яніна Руткоўская, у бібліятэцы адбыліся элімінацыі конкурсу «Выбіраем свайго героя». Пераможцамі іх былі чытачы Марыя Суліма і Янка Руць. Яны рэпрэзентавалі грамаду на павятовых элімінацыях у Дуброве. Як кожная бібліятэка, так і бібліятэка ў Дубасьне, мае сваіх найлепшых чытачоў. Да іх належаць: Крыстына Емялкоўская (настаўніца), Павел Зільбаровіч (селянін), а таксама Яўгень Ганчарук і Януш Кумачэўскі (вучні). (яц)

### *ДАБІЛІСЯ СВАЙГО*

*У Мякішах, калі адбывалася камасацыя зямлі, геадэты не раздзялілі супольнай пашы сярод гаспадароў. Таму не была яна належна выкарыстана. Сяляне вёскі сталі дабівацца, каб гэтую пашу падзяліць. Звярталіся ў гэтай справе ў ГРН у Пасынках, да павятовых улад у Бельску Падляшскім, высылалі таксама сваю дэлегацыю ў Беласток да ваяводскай рады нарадовай. І, нарэшце, прыйшло паведамленне, што такі падзел адбудзецца. Цяпер там ужо адбываецца падрыхтоўка да камасацыі супольнай пашы.* *(мх)*

### АНДРУШКА З ТРАШЧОТАК

Андрэя Салавянюка з Трашчотак называюць Андрушка. У далейшых вёсках не знаюць нават яго прозвішча. Але калі хто скажа: маляр Андрушка, вядома, што гэта датычыць Андрэя Салавянюка. Ведаюць яго ва ўсёй ваколіцы як дасканалага маляра. Малюе ён хаты. Ды так прыгожа малюе, што работы мае больш як трэба. Многія хочуць, каб яго пакоі, кухня, яго дом прыгожа выглядалі. А зрабіць гэта дасканала толькі Андрушка. (мх)

### *ПАТРАНАТ ГС-У*

*У Бранску (Бельскі павет) дагэтуль спорт не развіваўся, пакуль не прыйшоў яму з дапамогаю мясцовы ГС. У лютым ГС закупіў спартыўныя прылады. Прызначыў на гэта 30 тысяч зл. Цяпер добра працуе веласіпедная секцыя і валейбольная.* *(мх)*



 

Пачатак на стар. 1

# ПЛЫВІ "ГАЙНАЎКА"!

дня 18 мая 1971 года. Вітае нас дырэктар суднаверфі «Вісла» Чэслаў Рыра. 66 суднаў, збудаваных гэтай верфю, плавае зараз пад савецкімі флагамі, 33 рыбалоўчыя судны прадалі яны аж у Лівію.

Кіруемся на набярэжную верфі. У майскім, яркім сонцы красуецца перад намі гэтае новае судна, што чакае свайго імя, красуецца шматколернымі марскімі флажкамі і нацыянальнымі шарфамі. 54 метры даўжыні, звыш 10 метраў шырыні і амаль 5 метраў вышыні. У сваё аб'ёмістае нутро ўмяшчае яно вагонаў 60 дошак, гэта значыць, 850 тон грузу. На яго пярэдняй частцы бачым герб Гайнаўкі, а зараз побач вялікія зялёныя літары складаюць назву: «HAJNÓWKA».

Галоўным канструктарам гэтага судна быў інжынер Валянцін Лоек. Пад яго кіраўніцтвам, між іншым, працаваў наш зямляк, магістр інжынер Ежы Панкавецкі, гайнаўчанін, бацька якога шмат год — аж да пенсіі — цясляры ў на гайнаўскім тартаку. Так вось Гданьск, залаты горад, што спрадвеку купаецца ў хвалях Балтыкі, працягнуў руку нашай Гайнаўцы, суседцы Белавежскай пушчы.

— Я вельмі рады, — гаворыць наш зямляк, — што гэтае судно, да ўзнікнення якога я таксама прыкладаў руку, атрымоўвае імя маёй роднай Гайнаўкі. Гэта добрае, удачнае судно. Яно поўнасцю аўтаматызаванае. Абслугоўваюць яго ўсяго ледзь 14 чалавек.

На спецыяльна падрыхтаваную, упрыгожаную трыбуну ўзнімаюцца прадстаўнікі гданьскага і гайнаўскага прадпрыемстваў, гайнаўскіх і гданьскіх адміністрацыйных і партыйных улад. *Сярод іх — хросная маці Анна Ляшчынская.*

Кароткія, прывітальныя прамовы і наступае самы ўзнёслы акт. Да мікрафона просяць хросную маці. І яна роўным, звонкім, аднак дрыжачым ад хвалявання голасам абвяшчае:

— *Даю табе імя «ГАЙНАЎКА». Плыві па марах і акіянах ды праслаўляй імя польскага суднабудаўніка і матроса!*

Аркестр іграе нацыянальны гімны, а пасля «*Сто лят*». Бутэлька шампанскага з трэскам разбіваецца аб борт судна. Урачыстымі сігналамі прысутныя пасуседску судны прымаюць «Гайнаўку» ў сваю сям'ю. А м/с «Гайнаўка» маестатычна сантыметр за сантыметрам апускаецца на ваду. Гэта яе першы пацалунак з марскімі хвалямі. Будзе яна змагацца з імі на шляху між польскімі і англійскімі партамі, перавозячы белавежскую драўніну.

Пасля гэтай урачыстасці адбылася сустрэча гайнаўскай дэлегацыі з будаўнікамі «іх» судна. За супольным пачастункам абодва рабочыя калектывы абмяняліся сувенірамі і расказалі пра свае справы. Дык даведаліся мы, што пабудова судна «Гайнаўка» з'яўлялася для суднабудаўнікоў верфі «Вісла» вельмі важным і адказным заданнем, бо «Гайнаўка» дае пачатак цэлай серыі падобных суднаў, якія ахвотна купляюць за мяжой.

Такім чынам, урачыстасць была закончана. Аднак гайнаўчане засталіся яшчэ начаваць. Гаспадары падрыхтавалі для іх на наступны дзень экскурсію на караблі.

*Віктар Рудчык*



*Хросная маці судна «Гайнаўка», медсястра Анна Ляшчынская ў суправаджэнні галоўнага механіка судна м/с «Гайнаўка», капітана Зэнана Міхневіча, дырэктара аб'яднання марскіх рамонтных суднаверфяў Чэслава Знаеўскага і дырэктара гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната Аляксея Зіна.*



*Дэлегацыя з Гайнаўкі праводзіць сваё судно ў мора.*

*Фота Цаф — Уклееўскі*

## НА ШТО СКАРДЗЯЦЦА Ў КЛЕЙНІКАХ

Перадавы гаспадар вёскі, найлепшы жывёлагадоўца Іван Северэнюк 19-га мая ўбачыў, што прыхварэлі яго парасяты. Пазваніў ён у ветэрынарную лячэбніцу ў Нарве. Сказалі яму, што зараз прыедуюць. Да 15-ай гадзіны лекара не было. Да гэтага часу ўжо здохла адно парася вагою каля 20 кг. Ды, як сцвярджае гэты гаспадар, візіты лекара вельмі дарагія. Ён ужо ў гэтым не раз пераканаўся.

* * *

Іван Грыгарук (сын Рыгора) заставіў крамара зважыць буханку хлеба. Аказалася, што не хапала ў ёй 40 грам вагі. Выпіўшы некалькі бакалаў піва, ён прыйшоў са скаргай у ГРН, што гэзсаўская пякарня ў Нарве ашукоўвае людзей.

* * *

У Івана Асіпюка на панадворку і пры самай вуліцы знаходзяцца крыніцы. На вуліцы і на панадворку ўвесь год стаіць вада, а над ёю хмары камароў. Неабходны ў гэтым месцы адвадняючы роў. Але няма каму гэтай справай заняцца.

(мх)

## Прыемна ў хілімонаўскім клубе

Вёска Хілімоны, Дуброўскага павета, мае два клубы: клуб «Руху» ў цэнтры вёскі і клуб селяніна на каленіі. Прыйшлося мне быць у клубе селяніна, дзейнасцю якога кіруе маладая дзяўчына Ірэна Краўчук. Клуб мае тэлевізар, радыёпрыёмнік, адаптар, а нават гучнагаварыцель, які завешаны на сцяне знадворку. У клубе ёсць новыя столікі і крэслы. На століках кіраўнічка клуба ставіць кветкі. На сценах развешаны актуальныя газеткі, дыплом і г.д. Прыемна пасядзець тут увечары, пачытаць прэсу або паіграць у шахматы. Да таго моладзь тут актыўная. Арганізуе яна часта танцавальныя вечарыны або цікавыя згадуй-згадулі. На месцы ёсць свой гарманіст Янка Суліма, які пайграць на вечарыне ніколі не адмовіцца. Пры клубе дзейнічаюць два гурткі ЗМВ і БГКТ. Да актывістаў належаць тут перш за ўсё: Ірэна Гелашын, Марыя Сак, Вацлаў Андрукевіч, Данусь Сівіцкая і Лявон Шчэрбач, старшыня 15-асабовага гуртка БГКТ. Пры клубе існуе таксама бібліятэчны пункт, у якім у сярэднім знаходзіцца 120 кніжак. Найбольш карыстаюць з яго такія чытачы, як Марыя Сак, Галіна Суліма і Лявон Шчэрбач.

(яц)

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

ЛЕТАПІСЫ. VI ЧАСТКА. БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА (ПРАЦЯГ).

Адной з першых інфармацый у Баркулабаўскай хроніцы, звязаных з міжнароднымі падзеямі, з'яўляецца вестка аб узяцці рускім царом Іванам IV беларускага горада Полацка. Праз некалькі гадоў аўтар інфармуе аб уступленні на польскі трон Стэфана Баторыя, які хутка пачаў вайну з Расіяй. Вынікам гэтай вайны было ўзяцце Баторыем Полацка, а таксама іншых гарадоў у Расіі. Найбольш шырока прадстаўляе летапісец польска-рускую барацьбу за Магілёў. Дэталёвасць апісанняў становіцца яснай, калі возьмем пад увагу, што аўтар хронікі быў жыхаром Магілёўшчыны. Хранікар аднатаваў таксама факт забойства Іванам Грозным уласнага сына. Пры гэтым аднак памыліўся і замест Іванам назваў сына Грознага Фёдарам.

Досыць падрабязна і каларытна прадставіў беларускі летапісец бунт Налівайкі — украінскага казацкага важака, які на чале сваіх атрадаў дайшоў да Беларусі і заняў, між іншым, Магілёў. Не можа быць сумненняў, што аўтар асуджае практыкі Налівайкі, аднак і тут факты дамінуюць над эмоцыяй. Паслухайма летапісца: «Северыян Налівайко з 2000 казакаў і 14 гарматамі... слаўны горад Магілёў, горад набожны з крамамі і астрогам спаліў. Дамоў усіх 500, крамаў з усімі скарбамі 400 знішчыў. Мяшчан, баяр, людзей учцівых, так мужчын, як і жанчын і дзяцей малых пабілі, парубалі, спаганілі; скарбаў незлічоных з крамаў і дамоў набралі».

З далейшай рэляцыі даведваемся, што атакавалі Налівайку войскі польскія, літоўскія і турэцкія. Аднак беспаспяхова. Зрэшты, які меў быць вынік, калі літвіны і татары самі прагнулі нажывы? Яшчэ раз вернемся да хронікі. «Літва, ад казакоў адступіўшы, у Магілёў на вялікую дабычу паехала, а казакі ўсю ноч уніз да Быхава ехалі. Літва за казакамі гналася аж да Рагачова, але нічога злога ім не зрабіла. Затым Літва і татары рушылі да Мінска, Ноўгарада і Вільні, грабячы тутэйшы край».

Інфармацыю сваю канчае летапісец весткай аб новай бітве з Налівайкам, якая кончылася поўным разгромам казацкага войска. «Налівайку-севераніна, — гаворыць аўтар, — злапалі на сёмай субоце, да караля паслалі і, там яго замураваўшы, трымалі да восені, да святой Пакровы і тады пачацвэртавалі».

Сучасны даследчык Дабрынін выразна нездаволены факталагічным рацыяналізмам беларускага летапісца і бракам энтузіязму для Налівайкі. «Цікава канстатаваць наяўнасць асобага пункту гледжання, поўную адсутнасць якога б там не было разумення сэнсу той барацьбы за народ, якую вялі казакі». (Беларуская літаратура, Мінск 1952 г. с. 275).

Прэтэнзіі крытыка даволі дзіўныя. Наколькі ж лепш і дакладней мы ведалі б мінулае, на колькі менш было б сварак, канфліктаў, нацыяналізмаў, прэтэнзій, калі б гісторыкі ўсіх народаў, так як аўтар Баркулабаўскай хронікі, абмяжоўвалі свае рэляцыі аб мінулым і сучасным да саміх фактаў.

Трэба аднак сказаць, што наш летапісец недалюбліваў, мабыць, казакоў і ахвотна натаваў адмоўныя факты з іх дзейнасці.

І так пад 1601 годам канстатуе, што казацкі паход у Швецыю не прынёс гэтай краіне нейкай шкоды. Затое «Полацку вялікую шкоду прычынілі, слаўны і вялікі Віцебск заваявалі, золата і серабра мноства набралі, мешчан учцівых парубалі і горш злых ворагаў або злых татар шкоду садомную чынілі».

Пад 1605—1607 г.г. апісаў летапісец перыпетыі Расіі, звязаныя з самазванцамі, якія адзін за другім пхаліся на рускі трон. Летапісец здаваў сабе справу, што прэтэндэнты на трон не былі сапраўднымі царэвічамі, а толькі марыянеткамі ў руках акрэсленых унутраных і замежных сіл. Нягледзячы на гэта, і тут прадстаўляе ён падзеі без эмоцыі і ангажавання.

Апрача спраў палітычных, знаходзім у Баркулабаўскай хроніцы вялікую колькасць інфармацый аб порах года і анамаліях у прыродзе. Аўтар цікавіцца перад усім засухамі, паводкамі, перунамі, раннімі марозамі, снежнымі зімамі, словам, усім тым, што было прычынай найбольшага ворага чалавека — голаду. Карціны з народнага жыцця належаць да найбольш драматычных і каларыстычных ва ўсім творы. Паслухайма рэляцыі з неўраджайных 1601—1602 гадоў. «Вялікія болесці, хваробы, і войны вялікія, і голад, і неўраджай сільны, і паветра моравае на людзей, якія масава ўніз ішлі, зваліліся. Каля 4000 чалавек: мужчын, жанчын і дзяцей пайшло. Страшна было глядзець як па вуліцах, па дарогах, па гумнах і равах сабакі многіх мёртвых целы елі».

І яшчэ раз прадстаўма слова аўтару, які нібы дасканалы драматург, выводзіць на сцэну галодны хор, які безупынна спявае трагічную песню: есці,

42.

бамі ў той варонцы, як шасціствольныя ігралі. Во — перамяніўся. Бо самому ўжо не трэба з траншэі вылазіць. Другіх пасылае. У тым уся справа.

Грыневіч памяркоўна маўчаў. Ды і што было пярэчыць: справа гэтая дужа звычайная на вайне. Для адных загад — каманда па калоне: прыняў, перадаў далей. Для тых жа, каму яго выконваць, — ён робіцца пытаннем жыцця і смерці.

— Ніколі не забуду падпалкоўніка Багданава, — успамінаў Ананьеў. — Такіх камандзіраў ужо мала — павыводзіліся. Пад Невелем гэта было ў сорак першым. Я тады яшчэ старшыном хадзіў. Біліся, помню, двое сутак: у батальёне ніводнага сярэдняга камандзіра не засталося, байцоў — жменька. Ну, я за камандзіра. Сем атак адбілі, а на восьмай не ўтрымалі. Танкамі, сволач, збіў з пагорачка: гранаты ўсе выйшлі, артылерыя дагары коламі... Надвячоркам адбегліся за рэчку, брыдзем, як шызафрэнікі, нічога не чуем, не разумеем. А тут насустрач з ляска камандзір корпуса, яшчэ нейкае начальства і камандзір палка падпалкоўнік Багданаў. Камкор дастае пісталет: «Стой!» «Так вашу растак: застрэлю, у трыбунал аддам!» І да Багданава. Давай яго з гразёю мяшаць. Накрычаўся — у эмку — і — далей адгэтуль... Ну, думаю, цяпер ад камандзіра палка яшчэ будзе. А наш Багданаў, калі камкор схаваўся ў ляску, спакойна гэтак падыходзіць да мяне. «Дай тваю руку, герой! Малайцы, столькі трымаліся. Ад ліца службы табе падзяка». «І яшчэ — чым цябе ўзнагародзіць?» Дастае з кішэні гадзіннік, адшпільвае ланцужок і ўручае мне. Знаеш, не вытрымаў я, заплакаў, яй-богу.

— А дзе ён цяпер, Багданаў гэты? — запытаў я.

— Багданаў? Месяцы два камандзірам дывізіі быў. Не нашай, праўда, суседняй. А затым я ў шпіталь загрымеў. А калі вярнуўся, у арміі яго ўжо не было. Казалі, нібыта таксама па раненню выбыў. А гадзіннік той у мяне, у непрытомнага, санітары, сволачы, вынялі... Не збярог... усё жыццё шкадаваць буду... Ён быў мне даражэй за ордэн.

Ананьеў дакурыў і абцасам старанна прытаптаў акурак.

— Ну, хопіць балбатаць. Пайду пройдуся, — сказаў ён і, штурхнуўшы мяне, устаў. — Вы тут хаця не ўсе спіце. Не курорт вам, ядрона вош!

Мы не спалі — мы сядзелі і слухалі. Чутно было, як ён вылез і прашлёпаў па гразі ў траншэі. Калі яго крокі сціхлі, Цвяткоў з-за мяне пацягнуўся рукамі да скрынкі, забразгаў там чымсь — мусіць, шукаў пляшку.

Стала ціха і самотна.

Як-колечы я прыцярпеўся да болю ў плячы і, здаецца, пачаў драмаць. Адчуванне рэальнага блыталася з разнастайнымі малюнкамі былога, урыўкамі нейкіх фраз, думак. Знадворку нехта дзёўб сваю ячэйку: «тук-тук» — чулася за маёй спіной, і паступова, у цягучай дрымоце, я пачаў успрымаць гэты гук, як знаёмы, напаўзабыты стук сякеры ў дзяцінстве, які на ўсё жыццё мне ўбіўся

44.

там. І вось аднойчы, вярнуўшыся з школы, на зруб узлез я. У мяне неяк пайшло зручней, чым у маці, хоць, вядома, далёка не так, як у бацькі. І ўсё ж я дарубіў недарублены ім вугал. Праўда, трохі зачапіў вострай пяткай палена, прасекшы штаны.

З таго дня пачалася мая будаўнічая пільніца.

Самым пакутным было ўставаць на світанні, да чаго я доўга не мог прывучыцца, жахліва хацелася спаць. Маці будзіла мяне ў тры прыёмы, і ўжо я замест бацькі будзіў уранку сваім стукам малодшых сясцёр — так кожны дзень да глыбокай восені. Школа мяне мала цікавіла. Вучыцца ў сёмым класе ўвогуле было няцяжка. Куды болей сур'ёзныя справы займалі маю свядомасць. Надвячоркам, прыбегшы з калгаснай работы, да мяне на зруб узлязала маці. Удвох мы перакочвалі бервяно, падняць якое з зямлі памагаў хто-небудзь з суседзяў. Калі ж нікога паблізу не было, мусілі паднімаць удвох. Спачатку мы клалі яго канцом на плот, потым паднімалі на сярэдзіну зруба і ў трэці прыём, стаўшы на драбіну, узвалаквалі канец бервяна наверх. Затым гэткім жа спосабам паднімалі другі канец. Так дарубілі і самшылі. Ставіць кроквы памог дзядзька Ігналя. Накрыў кулявой саломай мамін сваяк з суседняе вёскі. Астатняе дароблялі самі з маці. Гэта было нялёгка, ды і вечна не хапала таго-другога. На зіму мы ўсё ж перанесліся ў сваю хатку, вокны ў якую паставілі з старой, дзверы таксама. Падлогі яшчэ не было зусім, але печ змураваў самы лепшы ў раёне пячнік, з ім расплачваліся некалькі год потым, — і ў першы ж вечар, прыгрэўшыся каля яе сырога, яшчэ смярдзючага ад гліны боку, мама сказала:

— Як-небудзь будзем жыць, дзеткі...

Дзяцінства маё тым летам і скончылася, на плечы ляглі зусім не дзіцячыя клопаты, пачалася праца, а болей працавітых за нашу сям'ю не было ў вёсцы. Без бацькі спадзявацца не было на каго, кавалак хлеба трэба было зарабіць самім. У першы ж год мама выгнала 430 працадзён у калгасе, я — 210. Ленка і тая 60. Адна Наталка заставалася дома — на яе абавязку была карова, куры, прапалка. Усе ў нас мелі свае справы і абавязкі — як і дарослыя. Было не да гульняў і дзіцячых забавак. І хоць даводзілася цяжка, часам галаднавата і сцюдзёна, здавалася, што ўвогуле зусім нармальна. Іншага жыцця мы ў тую пару не ведалі. Да вайны ж заставалася яшчэ тры гады.

* ✲ *

Гадзінніка ў нас не было, мы не сачылі за часам, якога, мусіць, мінула нямала. Я ўжо некалькі разоў браўся драмаць, але прахопліваўся кожнага разу, калі хто заходзіў у бліндаж або выходзіў з яго. Ананьеў усё не вяртаўся, і Грыневіч, здаецца, таксама прыдрамаў. У бліндажы было зусім ціха, чуліся ўсе гукі знадворку: прыглушаны кашаль, рэдкія скупыя словы паблізу; часам нехта праходзіў туды-сюды па траншэі. Ніводзін рух там не заставаўся для нас безуважны — слых нават і ў сне быў насцярожаны да ўсяго наверсе.

Але ноч, здаецца, мінала.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# СТО ГОД ГІСТОРЫІ „ІНТЭРНАЦЫЯНАЛА“

Сто год ужо мае «Інтэрнацыянал», моцныя словы якога і маестатычныя гукі чуем і спяваем з выпадку рабочых свят, з выпадку вялікіх дзяржаўных урачыстасцей.

Аўтар слоў «Інтэрнацыянала» называўся Эжэн Пацье. Быў парыжскім рабочым і членам Парыжскай камуны. Нарадзіўся ў 1816 годзе, памёр у 1887 годзе.

Верш свой напісаў Э. Пацье ў чэрвені 1871 года, калі ўжо зняможана была ворагам Парыжская камуна, а ён сам, завочна асуджаны на смерць, хаваючыся на пажарышчах Манмартра, пісаў свой палымяны гімн, заклік да барацьбы.

Верш мае шэсць зваротак. Упершыню быў надрукаваны праз 16 год ад часу напісання, у зборніку вершаў Э. Пацье «Рэвалюцыйныя песні».

У 1888 годзе адзін экземпляр гэтай кніжкі трапіў у рукі лільскага рэзчыка па дрэве П'ера Дэжэйтара (1848—1932), кампазітара-аматара. Верш захапіў Дэжэйтара і ён напісаў да слоў мелодыю.

23 чэрвеня 1888 года адбылося першае публічнае выкананне «Інтэрнацыянала» на свяце працаўнікоў друку ў Лілі. Спяваў хор лільскіх рабочых, які называўся «Ліра рабочых». Хорам кіраваў П. Дэжэйтар.



*Апошнія баі камунараў.* *З гравюры таго часу*

У 1899 годзе «Інтэрнацыянал» прагучаў упершыню як гімн усяго сацыялістычнага руху на І аб'яднаным кангрэсе сацыялістычных арганізацый у Парыжы.

Найперш «Інтэрнацыянал» быў перакладзены на іспанскую мову (1899), потым на нарвежскую (1899), румынскую (1900), англійскую, італьянскую (1901), нямецкую, шведскую, рускую (1902).

У часе рэвалюцыі 1905—1907 г.г. гімн «Інтэрнацыянал» гучаў на мітынгах і дэманстрацыях многіх краін Еўропы. У гэтыя гады ён быў упершыню перакладзены на венгерскую, дацкую, польскую, фінскую, грузінскую, латышскую, літоўскую і іншыя мовы.

На беларускую мову «Інтэрнацыянал» быў перакладзены ў 1921 годзе Янкам Купалам. Было гэта ў месяцы красавіку. Беларускі пераклад «Інтэрнацыянала» мае роўна 50 год. Надрукаваны па-беларуску быў у ліпені 1921 года ў газеце «Савецкая Беларусь».

Першую гарманізацыю «Інтэрнацыянала» зрабіў кампазітар У. Тэрахоўскі. У 1922 годзе выйшаў з друку яго зборнік песенна-харавых твораў «Беларускі лірнік», у якім былі змешчаны ноты і тэкст міжнароднага гімна.

Упершыню «Інтэрнацыянал» на беларускай мове прагучаў 23 лютага 1922 года ў выкананні хору пад кіраўніцтвам У. Тэрахоўскага на плошчы Свабоды ў Мінску.

Паўстань, праклятцем катаваны,
Паўстань хто з голаду век пух,
Апалі рабскія кайданы,
Апаў нявольніцтва ланцуг.

(АПР. ВЛ.)

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАГАВОРЫМ АБ ВІТАМІНАХ

**Вітамін А** — збіраецца ў печані. Недахоп вітаміна А спрыяе ўзнікненню «курынай слепаты» (ураждлівасць на свет), жорсткай сухой скуры, выпаданню валасоў.

Крыніцай вітаміна А з'яўляецца рыбі жыр, пячонка, жаўткі, масла, смятана, тлустыя сыры, поўнае малако.

Каб запоўніць дастатковую колькасць вітаміна А для арганізма, дастаткова з'есці ў дзень 50 грамаў цяляціны або 4 яечкі, або 4 літры малака, або 200 грамаў масла, альбо вялікую порцыю свежай пятрушкі, або 100 грамаў чырвонай папрыкі, альбо, найлепш, усіх гэтых прадуктаў пакрысе.

**Вітамін $B_1$** — неабходны арганізму для нармальнага спалення вугляводаў. Калі ў арганізме не хапае вітаміну $B_1$, то чалавек адчувае сябе стомленым, слабым, у яго баліць галава, слабая нервовая сістэма, а таксама страўнік.

Крыніцай вітаміна $B_1$ з'яўляецца чорны хлеб і буйная каша, падробы, худая свініна, бабовыя расліны. У адзін дзень дастаткова з'есці 8—12 кавалкаў цёмнага хлеба, або 200 грамаў свініны, або 400 грамаў пячонкі, альбо лыжачку дражджэй, або 200 грамаў шынкі.

**Вітамін $B_2$** — спрыяе працэсам росту. Неабходны ён асабліва ў перыяд росту, цяжарнасці і кармлення дзіцяці. Калі ў арганізме не хапае вітаміна $B_2$, то чалавек адчувае стомленасць зроку, ён не любіць святла, а акрамя таго робяцца ў яго каля рота «заяды». Каб даць арганізму неабходную колькасць вітаміна $B_2$, трэба есці: дрожджы, пячонку, малако, сыроватку, сыр, валавіну, яечкі, збожжавыя прадукты з поўнага памолу. Дастаткова з'есці ў дзень 60 грамаў цялячай або свіной пячонкі, або 75 грамаў нырак, або паўлітра поўнага малака, або паўкілаграма тварожку, або чвэрць кілаграма плаўленага сыра.

**Вітамін С** — узмацняе адпорнасць арганізма, ахоўвае яго перад прастудай, папраўляе агульнае самаадчуванне. У выпадку недахопу вітаміна С чалавек адчувае брак апетыту, хутка стамляецца, крывавяць у яго дзёсны, ён бледны і хутка ўспрыймае інфекцыйныя хваробы.

Крыніцай вітаміна С з'яўляюцца фрукты і гародніна, а асабліва чорныя парэчкі, дзікая ружа, трускалкі, капуста, хрэн, радыска, зялёная пятрушка, укроп. Дастаткова з'есці ў дзень вялікую жменю сечанай пятрушкі, або чвэрць кілаграма памідораў, або чвэрць кілаграма кіслай капусты, або 50 грамаў чорных парэчак, або 100 грамаў лімонаў.

**Вітамін Д** — абсалютна нельга дапусціць да ўжывання ў надмернай колькасці. У дзяцей, якім не хапае вітаміна Д, часта дрэнна растуць зубы, яны хварэюць часта рахітам (кшывіца), часта ў іх дэфармуюцца косці. У дарослых недахоп вітаміна Д спрыяе дэфармаванню грудной клеткі, ламлівасці касцей. Крыніцай вітаміна Д з'яўляецца рыбі тлушч, селядцы.

Грудныя дзеці атрымліваюць вітамін Д у леках. Для дарослых няма асаблівых рэцэптаў, важна дастаткова быць на паветры і нармальна есці.




Іх называюць «тхак-тхе» — «лясныя людзі». І, як кажуць, жывуць яны на схілах хрыбта Чыантшон у Сярэднім і Ніжнім Лаосе. Бачылі іх і ў В'етнаме.

Мне неаднаразова даводзілася ў час знаходжання ў розных раёнах Індакітая чуць пра іх ад самых розных людзей — вучоных, сялян, паляўнічых. Вось толькі некаторыя з гэтых паведамленняў.

...Дырэктар інстытута гісторыі ДРВ Чан Хуэй Льеў: «У лясных і высакагорных мясцовасцях Тай-Нгуена, мяркуючы па расказах тутэйшых жыхароў, ёсць чалавекападобныя жывёліны, якіх называюць «ань-нак-тань» або «зохаць»... У 1944-м годзе ў гарах раёна Тай-Нгуен на тэрыторыі абшчыны Едарон павета Мадарат адзін юнак забіў з арбалета стралой «аньнактаня», калі той спускаўся да ручая за крабамі і водарасцямі. Будучы смяротна параненым, ань-нак-тань» усё ж спрабаваў схавацца ў пячоры, што знаходзілася паблізу. Калі знайшлі яго труп, аказалася, што гэта істота жаночага полу, вельмі валасістая, невялікага росту...»

...Уілфрэд Бэрчэт, аўстралійскі журналіст: «Мой праваднік расказваў, што аднойчы ў 1949 годзе ўбачыў у гарах Нгуена групу чалавекападобных істот. Адну такую істоту мужчынскага полу ўдалося злавіць. Цела гэтай істоты пакрывалі густыя чорныя валасы; крыкі яго былі падобны на шчабечучыя гукі, якія не падобны, аднак, на чалавечую гаворку, еў толькі сырое мяса, рачных крабаў і лісце пальмаў, вельмі баяўся людзей. Яго вырашылі адпусціць, але ён нечакана памёр.»

...Кхамфас Фанекео, лаоскі этнограф: «На поўдні, у раёне Саравана, дзе я часта бываю, мясцовыя жыхары гавораць, што ў джунглях можна сустрэць «лясных людзей», «тхак-тхе». Я не бачу ў гэтых паведамленнях нічога неверагоднага, бо ў аддаленых раёнах нашай краіны ёсць нямала плямёнаў, якія жывуць у поўнай ізаляцыі ад знешняга свету ва ўмовах першабытнага грамадства. Што ж датычыць «тхак-тхе», то яны, наколькі мне вядома, не могуць гаварыць і пераклікаюцца паміж сабой невыразнымі гукамі. Цела ў іх пакрыта валасамі. Рост невялікі: прыкладна як у дзесяці-дванаццацігадовага падлётка. Яны любяць ласавацца

# ТРЫБУНА чытачоў

## БАРАЦЬБА З ПУСТАЗЕЛЛЕМ

Сельскагаспадарчы гурток ў Крывяцічах на палях жыхароў тутэйшага сяла праводзіць масавую барацьбу з пустазеллем. Два трактарныя саставы, так званыя «апырсквачы», штодзённа апыльваюць хімічнымі сродкамі вясеннія пасевы. Як сцвярджаюць сяляне, на апырсканых палях фактычна пустазелле гіне, а хімічныя сродкі не прыносяць ніякай шкоды пасевам.

*В. Кірызюк*

## БЕЛЬСКІ ХОР У ТАЛОЧКАХ

30 мая г.г. бельскі беларускі хор выступіў у Талочках у Сакольскім павеце. Хор быў запрошаны павятовымі ўладамі Сакольшчыны. Выступіў ён з багатай праграмай беларускіх, рускіх і польскіх песень. Сардэчна былі прыняты нашыя салісты Янюк і Раманюк, а таксама ўвесь калектыў. Праграма працягвалася больш гадзіны. На заканчэнне хор праспяваў традыцыйнае «Бывайце здаровы», а прадстаўнікі сакольскай моладзі ўручылі яму кветкі.

*Вераніка Леанюк*

## ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ

2 чэрвеня 1971 года ў Бельскім беларускім ліцэі адбыўся апошні ў гэтым годзе канцэрт філармоніі. Канцэрт гэты пад загалоўкам «Папулярныя творы вялікіх кампазітараў» усім вельмі спадабаўся. На заканчэнне канцэрта вучні ліцэя кветкамі падзякавалі артыстам за дзесяць канцэртаў, якія далі яны ў гэтым годзе. Варшаўскія артысты дапамагаюць развіваць у вучняў зацікаўленне музыкай. Шчыра ім за гэта дзякуем.

*Генэк, бельскі беларускі ліцэй.*

## МУЗЫЧНЫ КУРС

Музычны курс — своеасаблівая музычная школа, у якую прыходзяць дзеці пасля заняткаў у пачатковых або сярэдніх школах. У Гайнаўцы існуе такі музычны цэнтр пры доме культуры «Ляснік». Дырэктарам гэтага курса з'яўляецца Казімір Равінскі (на здымку). Заняткі адбываюцца два разы ў тыдні. Вучацца тут іграць 90 школьнікаў. Той, хто вучыцца музыцы не першы год, ужо выступае на розных урачыстасцях горада Гайнаўкі і павета. Яны займаюць таксама перадавыя месцы ў ваяводскіх конкурсах. Апрача польскага рэпертуару, рэпрэзентуецца імі таксама беларускі фальклор. (мх)



рачнымі крабамі. Людзей старанна пазбягаюць. Ходзяць вельмі невялікімі групамі, і наогул колькасць іх, мяркуючы па ўсім, вельмі малая...

Мяркуючы па расказах відавочцаў, раён жыхарства «лясных «тхак-тхе» ахоплівае горную мясцовасць на поўдзень ад плато Болавен».

...Чоўнламан Утама, лаоскі селянін: «Гэтыя істоты сустракаюцца зрэдку ў джунглях на поўдзень ад плато Болавен. Членараздзельнай гаворкі ў іх няма. Перагаворваюцца крыкамі. Цела пакрыта поўсцю. Росту маленькага. Часцей за ўсё іх бачаць каля вадаёмаў і ручаёў».

Частка гэтых звестак была апублікавана ў лаоскім друку, некаторыя расказы я чуў сам. І, не згаворваючыся, відавочцы малююць адзін і той жа партрэт «лясных людзей». Але хто яны, гэтыя «тхак-тхе»? Людзі, якія не пераступілі парог старажытнага палеаліту або чалавекападобныя малпы, малпы невядомага нам яшчэ віду, якія ходзяць выпрастаўшыся? Адказу на гэтыя пытанні пакуль няма.

*І. Андронаў*

*Дарагое Сэрцайка!*

У 1970 годзе скончыла я вучыцца і пайшла працаваць у горад. Там жыла я на кватэры разам са сваёю сяброўкаю. Аднойчы яна запрасіла мяне да сваіх бацькоў на вёску. Там была забава. На забаве гэтай пазнаёмілася я з хлопцам, якога клічуць Марэк. Ён быў ветлівы і вельмі мне спадабаўся. Увосень Марэк таксама пачаў працаваць у тым жа самым горадзе, што і я. Пачаў наведваць мяне на рабоце і часцей сустракацца ў горадзе. Пачаў мне ўсё больш падабацца: прыстойны, ветлівы, не паліць папяросаў, прыгожа, модна і чыста апранаецца. Праз нейкі час Марэк перастаў да мяне прыходзіць, і я нічога аб ім не ведала. Напісала да яго ліст, але адказу не атрымала. Думала. мо змяніў працу? Мо выехаў з горада? Так прайшло пару месяцаў. Цяпер Марэк ізноў з'явіўся і ізноў пачаў наведваць мяне на рабоце. Я аднак хацела б ведаць, што з ім было, чаму парваў са мною усялякія сувязі? Я ж яго кахаю і таму хачу аб гэтым ведаць, а мо меў іншую? Толькі не ведаю, як мне аб гэтым спытаць: ці на рабоце, калі да мяне прыйдзе, ці сустрэцца дзе-небудзь?

*Ірэна з Б.*




*Ірэна!* Пішаш, што ты кахаеш Марка, але нічога не гаворыш аб пачуццях Марка да цябе. З той рацыі, што дарыш Марка пачуццямі, ты павінна запытаць яго, што з ім дзеялася, чаму не паказваўся ў цябе. Але перад тым павінна ты разгледзець і другі бок гэтай справы: ці Марэк захоча табе адказаць на гэтае пытанне. Калі ты пераканана, што ў вас узаемныя пачуцці, тады, несумненна, павінна папрасіць Марка шчыра адказаць, калі ты няпэўная ў яго адносінах да тваёй асобы — лепш станоўча не стаў такога пытання, а зрабі гэтае ж самае, толькі ў агульнай размове накшталт: што ў цябе чуваць, як справы, ці меў якія клопаты, бо нічога аб табе не было чуваць пару месяцаў і т.п. Я толькі прыводжу табе такія пытанні так для прыкладу, бо мне проста немагчыма прадугледзець характар вашай размовы. У першым выпадку лепш будзе, калі ты размову сваю з Маркам правядзеш пры іншай сустрэчы, не на рабоце; у другім выпадку, дык можаш і на рабоце. Старайся толькі, каб не выглядала гэта на прэтэнзію ці зайздрасць, хлопцы ж такіх размоў не любяць, таму заданнем тваім будзе, як кажуць, «зрабіць сваё» толькі ў далікатнай форме.

*Жадаю поспехаў. Сэрцайка*

## ДАПАМАГЛІ

У грамадзе Дубічы Царкоўныя яравыя палеткі (аўса, пшаніцы) былі нядаўна апырсканы хімічнымі сродкамі, каб ліквідаваць пустазелле. Аднак сродкі амаль нічога не памаглі, бо пустазелле надалей расце. Не так, як у мінулыя гады, калі пасля апырсквання пустазелле адразу жоўкла, хілілася і гінула.

Цяпер інакш — красуе і зелянее.

Жыхары вёскі незадаволены і лаюць сельскагаспадарчую службу, якая не дапільнавала сваіх абавязкаў.

Кругом гавораць, што сродкі былі дрэнныя, старыя, «выдыханыя». Відаць праўда, бо як інакш можа быць? В.Б.

## АКЦЁРЫ НА ВЁСЦЫ

29 мая г.г. у Плёскі прыехалі акцёры з Лодзі. Былі яны запрошаны бельскім ПЗГС на Дні асветы, кніжкі і прэсы. Выступалі Анна Рось, Рышард Зялінскі і акампаніятар. У праграме былі песні, гумар і сатыра. Памяшканне клуба было перапоўнена. Акцёры А. Рось і Р. Зялінскі сваімі выступленнямі выклікалі ў слухачоў прыплывы вялікага смеху і весялосці. Усе горача апладзіравалі. Атмасфера між слухачамі і акцёрамі была свойская. На заканчэнне члены БГКТ і ЗМВ уручылі артыстам кветкі, сардэчна дзякуючы за канцэрт.

*Вераніка Леанюк.*

## РАСТЛУМАЧВАЕМ

Нядаўна мы змясцілі ліст павятовага камендантa пажарнікаў у Беластоку, накіраваны ў адрас камітэта будовы супрацьпажарнай стражніцы ў Новай Волі. У адказ атрымалі мы ліст вышэй спамянутага камітэта, накіраваны ў адрас павятовай камэнды пажарнікаў у Беластоку:

«У адказ на ваш (павятовай камэнды — рэд.) ліст растлумачваем:

1. Згаджаемся з думкай камэнды, што будова стражніцы ў гэтым годзе не закончыцца.

2. Не згаджаемся аднак адносна прычын, якія стварылі такое становішча.

*Матывіроўка*

У вашым лісце ідзе гутарка аб цалкавітай абыякавасці прэзідыума ГРН, праўлення ОСП, ПОП, грамадскага камітэта пабудовы. Маем дакументы, якія гавораць, што кожная арганізацыя, якая трапіла ў чорны спісак, была зацікаўлена пабудовай стражніцы. Возьмем, напрыклад, месяц май г.г. У выніку арганізаванага грамадскага чыну на працяту аднаго дня было прывезена для выраўнання пляца перад стражніцай 250 фурманак пяску. Пры пабудове пячэй было выпрацавана ў рамках нефаховых работ 18 рабочадзён. 5 рабочадзён выпрацавана пры пакрыцці даха. Пачалі маляваць сталярку. Гэта ўсё ў грамадскім чыне. У гэтым часе выканаўца пабудаваў толькі тры печы. Супастаўце гэтыя факты і атрымаеце тады сапраўдную карціну.

Мо ў вашым лісце гутарка пра што іншае? Мо мы вінаваты, што не прымушаем выканаўцу да выканання тых работ, якія прадбачвае дагавор? Дык не робім гэтага з двух прычын:

І. Не мы пісалі дагавор з выканаўцам, нават не былі запрошаны ў характары сведкаў ці наглядальнікаў. Праўленне ОСП атрымала да подпісу гатовы тэкст дагавору. Аб існаванні грамадскага прадстаўніцтва ў вёсцы вы прыпомнілі сабе толькі тады, калі выявілася, што пабудова ў небяспецы па прычыне выдуманага браку нефаховых работ.

2. Інспектар нагляду вырашыў выплаціць выканаўцу суму, якая фігуруе ў дагаворы, значыць трэба гаварыць з інспектарам нагляду. Калі інспектар нагляду не патрапіць дагледзець выканаўцы, дык мо знойдзецца нейкае іншае выйсце, каб даканчыць гарантаваныя дагаворам працы.

Адначасова заяўляем, што неадкладна пасля атынкавання будынка выканаўцам, возьмемся за ўкладку падлогі і далейшага выканчэння будынка, бо патрапім арганізаваць ахвотных да працы людзей.

Дык звяртаемся з просьбай дапамагчы ў рэалізацыі прац, якія прадбачвае падпісаны з выканаўцам дагавор.

*За грамадскі камітэт пабудовы: праўленне ОСП, экзекутыва ПОП.*
*Чатыры подпісы.*

Ад рэдакцыі: Абодва бакі выклалі свае рацыі. Каб справу рушыць з мёртвага пункту, неабходна знайсці залатую сярэдзіну. Маем надзею, што яна знойдзецца. Гэтага патрабуе грамадская справа.

## ТАК БЫЦЬ НЕ ПАВІННА

Усе ў Плёсках добра памятаюць, як у 1962 годзе згарэлі ад грому дзве клуні. Каб прадухіліць няшчасце, у вёсцы былі заложаны громаадводы. Але не кожны задбаў, каб правод закапаць у зямлю на адпаведную глыбіню. Некаторыя нават аднесліся зусім лёгкадумна: паадрэзвалі правады і ўжылі іх на іншыя гаспадарскія патрэбы. Хто там будзе глядзець у зямлю, хопіць што над клуняй відаць, кажуць яны.

Такія парадкі могуць скончыцца трагічна. Варта, каб улады, якія закладалі громаадводы, перыядычна кантралявалі іх спраўнасць.

*Чытач*

## НОВАЯ ВУЛІЦА

У вёсцы Грабавец, што на Гайнаўшчыне, будуецца новая жвіраваная вуліца. Завуць тут яе «Падгаёвая». Рабочыя капаюць равы і хутка будуць яе жвіраваць, а пасля будзе паложаны асфальт. Тут нядаўна быў арганізаваны грамадскі чын, у ходзе якога жыхары Грабаўца шмат дапамаглі рабочым. Работай пры гэтай вуліцы кіруюць Іван Майстровіч са сваім памочнікам Косцем Чыквінам.

*В. Бура*

## *ПАШТОЎКА З МАЛІННІКАЎ*



*У прышкольным агародчыку.*
*Фота: Я. Цялушэцкі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Lenin — fakty i wspomnienia" (radz.), 29—30.VI. „Wątła nić" (USA), 1—2.VII. „Abel twój brat" (polski), 3—4.VII.

**Нараўка**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 1—4.VII.

**Нарва**

„Dżamila" (radz.), „Gang Olsena" (duński), 1—4.VII.

**Чыжы**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 1—4.VII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" (włoski), 1—4.VII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 1—4.VII.

**Орля**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (franc.), 1—4.VII.

**Райск**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 1—4.VII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Prywatna burza" (czeski), 29—30.VI. „Fraulein Doktór" (jugosłowiański), 1—2.VII. „Otello z prowincji" (węgierski), 3—4.VII.

**Янаў**

„Mały" (polski), 1—4.VII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Wahadło" (USA), 1—4.VII.

**Мельнік**

„Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (ang.), „Fraulein Doktór" (jugosł.), 1—4.VII.

**Мілейчыцы**

„Ranny w lesie" (polski), „Wahadło" (USA), 1—4.VII.

27.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3

